ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

Каталіцкі ВЕСНІК

№9 (102) верасень 2019 год

CATHOLICNEWS.BY

# На мёрскім касцёле ўсталявалі шыльду ў гонар жаўнераў Арміі Андэрса

Стар. 7

## У Докшыцкай парафіі адсвяткавалі 20-годдзе служэння сясцёр-адаратарак



Стар. 4

## Бубен, які быў у бітве пад Венай, а потым доўгі час выкарыстоўваўся ў касцёле для ўрачыстасцей



Стар. 10



## Езус аздараўляе

Новы тэст ад "Каталіцкага Весніка"

Стар. 9

Больш матэрыялаў чытайце на сайце

Catholicnews.by



Каталіцкі ВЕСНІК
№9 (102)
верасень 2019 г.

# Папа Рымскі сустрэўся з Патрыярхам Канстанцінопальскім

**Барталамей I стаў 17 верасня гасцем Папы Францішка. Сустрэча прайшла ў ватыканскім Апостальскім палацы. Патрыярха Канстанцінопальскага суправаджала праваслаўная дэлегацыя.**

Сустрэчы Францішка і Барталамея I носяць рэгулярны характар. Праваслаўны іерарх неаднаразова наведваў Ватыкан, Францішак быў з візітам у рэзідэнцыі Патрыярха Канстанцінопальскага. Яны сустракаліся падчас пілігрымкі Пантыфіка ў Святую Зямлю, разам наведвалі ўцекачоў на грэцкім востраве Лесбас.

Некалькі дзён таму Францішак напісаў ліст да Барталамея I, у якім заўважыў, што для шляху дыялогу патрэбныя духоўнае навяртанне і абноўленая вернасць Пану, Які чакае ад нас большай далучанасці і новых мужных крокаў. Цяжкасці і рознагалоссі, паводле Папы, не павінны адрываць хрысціян, асабліва пастыраў Касцёла, ад іх абавязку і адказнасці перад Богам і гісторыяй.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*





## Папа Францішак перадаў юбілейны медаль Брэсту

**Брэст адсвяткаваў 1000-годдзе з моманту заснавання. Было запланавана шмат разнастайных мерапрыемстваў, аднак для вернікаў самае важнае месца ў праграме занялі адмысловыя набажэнствы за горад і яго жыхароў.**

У рымска-каталіцкай парафіі Узвышэння Святога Крыжа дзякавалі Пану за апеку над Брэстам, перапрашалі за спусташэнні святыняў на працягу гісторыі і прасілі пра здароўе для ўсіх жыхароў горада, паведамляе старонка парафіі.

Асаблівай радасцю стаў юбілейны медаль ад Папы Рымскага Францішка. Яго перадаў католікам Брэста з Рыма Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек. Ён зачытаў ліст ад Сакратара Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў. Медаль быў перададзены прадстаўніку мясцовых дзяржаўных уладаў.

Нагадаем, падчас святкавання 1000-годдзя Брэста тут быў кансэкраваны новы касцёл, а ва ўсіх парафіях адбылася малітва за горад.

*Katolik.life*



Кляштар бэрнардынак, руіны, Брэст. Фота К. Шастоўскі, radzima.org

## Касцёл ва Украіне атрымае новага маладога біскупа

**Папа Францішак прызначыў айца Аляксандра Язлавецкага дапаможным біскупам Кіева-Жытомірскай дыяцэзіі Рыма-каталіцкага Касцёла ва Украіне, інфармуе credo.pro. Пра гэта паведамілі ў Ватыкане 18 верасня.**



Як вядома, ардынарыем Кіева-Жытомірскай дыяцэзіі з'яўляецца Віталь Крывіцкі, які пасля прызначэння і пасвячэння папрасіў Святога Айца пра дапаможнага біскупа.

Гэта вельмі вялікі давер з боку Святога Айца.

Біскуп-намінант пракаментаваў сваё прызначэнне:

– Каля двух тыдняў таму я пачуў, што мяне прызначаюць біскупам.

Я разумею, што гэта вельмі вялікая адказнасць і заданне, таму я паехаў да сясцёр-кармелітак у Кіеў, каб правесці дзень у маўчанні і роздуме.

Пасля дня цішыні і разважанняў над Божым словам я ўнутрана пагадзіўся з гэтай прапановай. Мне таксама дапамагалі падтрымка і словы майго духоўнага айца, які мяне ведае, асабліва з боку чалавечага і слабага.

У хуткім часе я паеду на некалькі дзён на рэкалекцыі ў маўчанні ў Чэнстахову (Польшча).

Гэта вельмі вялікі давер да мяне з боку Святога Айца! Таму я вельмі прашу сваіх родных, сяброў і блізкіх мне людзей працягваць маліцца за мяне.

Я вельмі спадзяюся на падтрымку маіх святых заступнікаў, асабліва святога Тамаша Мора, і душ, якія знаходзяцца ў чысцы. Я таксама вельмі прашу ўсіх вернікаў Каталіцкага Касцёла маліцца за мяне ў гэтым служэнні, асабліва тых, хто штодня падтрымлівае мяне.

### Біяграфія

Аляксандр Язлавецкі нарадзіўся 2 сакавіка 1979 года ў Шаргародзе Вінніцкай вобласці. Пасля вучобы ў школе і ПТВ паступіў у Вышэйшую духоўную семінарыю Святога Духа ў горадзе Гарадок Хмяльніцкай вобласці. Святарскае пасвячэнне прыняў у 2004 годзе ад біскупа Лявона Дубраўскага. Працаваў вікарыем у в. Мурафа каля Вінніцы і выхавальнікам у Гарадоцкай семінарыі.

З 2006 г. працягваў вучобу ў Папскім латэранскім універсітэце ў Рыме, дзе абараніў доктарскую ступень па кананічным праве. Вярнуўшыся з Рыма, працаваў у семінарыі на пасадзе прарэктара. А з 2014 па 2018 гг. – рэктар Вышэйшай духоўнай семінарыі Камянецка-Падольскай дыяцэзіі.

З 13 жніўня 2018 года яго накіравалі на працу ў Кіева-Жытомірскую дыяцэзію, дзе ён працаваў канцлерам і мадэратарам курыі. 18 верасня 2019 года прызначаны дапаможным біскупам Кіева-Жытомірскай дыяцэзіі.

### Малады касцёл

Аляксандр Язлавецкі стане першым біскупам з Шаргарада і першым біскупам-выпускніком семінарыі Камянецка-Падольскай дыяцэзіі. Ён таксама ўваходзіць у лік наймалодшых каталіцкіх біскупаў свету. І што цікава, яны ўсе з Украіны (!)

Біскуп УГКЦ Пётр Лоза застаецца самым маладым біскупам. Аляксандр Язлавецкі, які старэйшы за яго ўсяго на тры месяцы, стане другім маладым каталіцкім біскупам у свеце. А Эдвард Кава, які падчас намінацыі і пасля пасвячэння быў самым маладым біскупам, зараз пераходзіць на трэцяе месца. Дарэчы, чацвёрты і пяты па чарзе самыя маладыя біскупы таксама ўкраінцы. Таму Касцёл ва Украіне, які вольна дыхае абодвума лёгкімі, можна смела назваць маладым.



## У Неапалі зноў паўтарыўся цуд святога Януарыя

**19 верасня ў Неапалі паўтарыўся цуд святога Януарыя, калі згушчаная кроў мучаніка, якая знаходзіцца ў ампулцы, стала вадкай, паведамляе deon.pl.**

Звычайна цуд адбываецца некалькі разоў на год, перш за ўсё ва ўспамін святога – 19 верасня. Але таксама можа такое быць у маі, снежні, а часам і ў іншую пару года. Растварэнне пакутніцкай крыві лічыцца абяцаннем росквіту Неапаля і яго жыхароў.

“Дарагія сябры, я яшчэ раз паведамляю вам добрую навіну. Кроў растала. Мы хочам падзякаваць Госпаду за тое, што гэта найперш знак Яго дабрыні і любові да нас, да Неапаля, да Кампаніі, да Касцёла. А таксама запрашэнне быць побач з Ім. Няхай жыве Святы Януарый!” – сказаў прысутным у катэдры кардынал Сэпэ, ардынарый Неапаля.

### Кім быў святы Януарый?

Святы Януарый быў біскупам у Беневента – горадзе, размешчаным прыкладна за семдзесят кіламетраў на ўсход ад Неапаля. Падчас вялікага пераследу хрысціян пры імператару Дыёклетыяне (III-IV стагоддзе) ён прыняў пакутніцкую смерць разам з шасцю святарамі (або дыяканамі) са сваёй дыяцэзіі. Гісторыя кажа, што за адмову скласці ахвяру бажкам каты кінулі іх у агонь, але полымя нейкім цудам не нанесла шкоды. Потым іх кідалі да дзікіх жывёл, але яны таксама іх не чапалі. У рэшце рэшт пакутнікі загінулі пад сякерай ката. Гэта адбылося 19 верасня 305 года ў Путэолі (сучасны горад Пацуолі) паблізу Неапаля.

## Самая ранняя из известных молитв Деве Марии написана на греческом языке в середине III века

**Самая ранняя известная молитва Деве Марии, как и само Евангелие, написана на греческом языке в середине III века от Рождества Христова.**

Дева Мария называется в ней “Θεοτοκος” (Богородица). То, что в такой ранней молитве Дева Мария уже упоминается под этим именем, весьма важно как с исторической, так и с богословской точек зрения.

Эта молитва, как объясняет издание Aleteia, была найдена на фрагменте папируса, который датируется примерно 250 годом по Р. Х., всего через пару веков после смерти и Воскресения Иисуса Христа, более чем за полстолетия до св. Константина и Миланского эдикта, но, что еще более важно, за два столетия до Третьего Вселенского (Эфесского) Собора, на котором Деву Марию впервые официально провозгласили Матерью Божьей – Богородицей.

Молитва, обращенная к Деве Марии, написана на папирусе коричневыми чернилами. Она звучит таким образом: “Матерь Божия, (услышь) мои молитвы: не причиняй нам страданий, но избавь нас от опасности. Ты единствен-



ная...”

В 1917 году библиотека Джона Риленда в Манчестере (Англия) приобрела большую панель из египетского папируса, написанную на греческом койне (средиземноморский разговорный диалект греческого языка, на котором были написаны Евангелия). Молитва была найдена во фрагменте, помеченном номером 470, и она, похоже, относится к коптской Рождественской Литургии (возможно, Рождественской вечерне). Хотя этот фрагмент также может быть частной копией молитвы для личного пользования.

*Седмица.Ru*

## “Я хутчэй пайду ў турму, чым парушу таямніцу споведзі!” У Аўстраліі ўвялі спрэчны закон

**Аўстралійскі штат Вікторыя ўвёў закон, які зможа прымусіць святароў парушаць таямніцу споведзі. Пра гэта паведамілі агенцтву навін “Catholic News Agency”.**



Арцыбіскуп Мельбурна Пітэр Каменсолі

Новы закон абавязвае спаведнікоў паведамляць уладам усё, што выклікае падазрэнне, напрыклад, адносна гвалту над дзецьмі, нават калі гэта было сказана падчас сакраманту споведзі. Закон прадугледжвае пазбаўленне волі на тэрмін да трох гадоў, калі пра такія падазрэнні не паведамляецца.

Новы закон дадаў святароў у спіс прафесій, прадстаўнікі якіх абавязаныя паведамляць пра выпадкі гвалту над дзецьмі ў адпаведныя органы. Але, у адрозненне ад іншых краін, прадпісанні, уведзеныя ў штаце Вікторыя, таксама распаўсюджваюцца на таямніцу споведзі.



“Найважнейшае – прызнаць, што закон трэба ўспрымаць сур’ёзна. Калі людзі не будуць яго выконваць, то іх чакае сур’ёзнае пакаранне”, – заявіў Дэніэл Эндрус, прэм’ер-міністр Вікторыі з 2014 года.

Аўстралійскія іерархі ўжо выказаліся на тэму ўвядзення новага закона. Арцыбіскуп Мельбурна Пітэр Каменсолі сказаў, што ён хутчэй адправіцца ў турму, чым парушыць сакрамантальную таямніцу.

Ён падкрэсліў, што сам передаў паліцыі інфармацыю такога кшталту, але атрыманую па-за сакрамантам споведзі. Таксама дадаў, што большасць святароў асабіста не ведае пенітэнтаў, якія прыходзяць да канфесіяналу, і што сакрамант пакаяння з’яўляецца ананімным. Гэта, аднак, не азначае, што не трэба заклікаць чалавека, які прызнаецца ў гэтым граху, прыйсці ў паліцыю і прызнацца ў сваіх дзеяннях па-за межамі канфесіяналу.

Іерарх звярнуў увагу на неабходнасць рашучай барацьбы супраць выкарыстання непаўналетніх, захоўваючы пры гэтым таямніцу споведзі.

*Пераклад*
***Вікторыі Колзун**,*
*catholicnews.by*
*Паводле deon.pl*

## Праз 80 гадоў у Ляхавічах адрадзілі гістарычны касцёл

**4 верасня ў Ляхавічах біскуп Пінскі Антоні Дзям’янка асвяціў тэрыторыю пры нядаўна вернутым касцёле святога Юзафа.**

З гэтага дня ў парафіі служыць адміністратарам з правамі пробашча кс. Павел Мазан, які дагэтуль больш за год служыў у Гомелі. Такім чынам у Ляхавічах адзначылі 80-годдзе адраджэння гістарычнага касцёла св. Юзафа.

Ляхавіцкая парафія – адна з найстарэйшых у Пінскай дыяцэзіі, а новая святыня ў неагатычным стылі з’явілася тут у 1910 годзе. Вядома, што грошы на будаўніцтва касцёла ахвяраваў шляхціц Язэп Рэйтан.



У савецкі час камуністычныя ўлады адабралі святыню і размясцілі тут лякарню. Таму пасля аднаўлення рэлігійнай свабоды касцёл пабудавалі новы. Але затым у райцэнтры ўзвялі і новую лякарню, а гістарычны будынак, нарэшце, вярнулі вернікам. Праўда, ён страціў сваю веліч, бо быў пазбаўлены высокай вежы-званіцы і дэкаратыўных элементаў.

Цяпер працягваецца рамонт касцёла, ідзе праца па вяртанні будынку ягонай прыгажосці. Дарэчы, на свяце 80-годдзя адраджэння гістарычнага касцёла былі нават тыя людзі, якія ў дзяцінстве ўдзельнічалі тут у святой Імшы, прымалі Першую Камунію.

*Katolik.life*

# У Докшыцкай парафіі адсвяткавалі 20-годдзе служэння сясцёр-адараторак



**25 жніўня ў парафіі Святой Тройцы ў Докшыцах вернікі разам з запрошанымі гасцямі сабраліся разам на нядзельную Эўхарыстыю, каб падзякаваць Богу і разам адзначыць дваццаць гадоў служэння сясцёр-адараторак Крыві Хрыста ў мясцовай парафіі.**

**Вікторыя Парцянка**, *тэкст;* **Марыя Шульгат**, *фота*

За час служэння сёстры сапраўды сталі блізкімі і роднымі. Для моладзі – як сёстры, для дзяцей – як маці.

Пасля святой Імшы моладзь і дзеці паказалі кароткую сцэнку, якая распавядала пра жыццё святой Марыі дэ Мацыяс – заснавальніцы супольнасці сясцёр-адараторак Крыві Хрыста.

Сапраўдная, поўная радасць тая, якую ёсць з кім падзяліць. Так і сёстры ў гэты дзень адзначылі ўрачыстую падзею разам з дзецьмі, моладдзю, парафіянамі, з братамі-капуцынамі, якія працуюць у парафіі. Яны прымалі віншаванні і словы ўдзячнасці, разам дзякавалі Богу за дар служэння і прасілі пра бласлаўленне на далейшую працу.

## Вернікі з Жодзіна і Глыбокага здзейснілі пілігрымку ў Марыйны санктуарый у Ліхені

**Пілігрымку арганізавала парафія Маці Божай Фацімскай у Жодзіне, і ў сувязі з наяўнасцю вольных месцаў запрасілі глыбачан.**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

45-асабовая група разам з кіраўніком а. Міхаілам Цвячкоўскім MIC першы прыпынак зрабіла ў Мар'янках. Гэта мясцовасць, у святыні якой знаходзіцца труна з бл. Станіславам Папчынскім, заснавальнікам ордэна марыянаў. Там наведалі музей і паглядзелі фільм пра святога марыяніна, прынялі ўдзел у св. Імшы праз заступніцтва бл. Станіслава, а затым пілігрымы накіраваліся ў кляштар сясцёр-эўхарыстак у Гуру Кальварыю. Тут групу з вялікай радасцю, шчырымі абдымкамі і цёплай усмешкай сустрэла настаяцельніца с. Зоф'я Грыгатовіч, якая яшчэ некалькі гадоў таму служыла ў Беларусі. Там жа пілігрымы падсілкаваліся абедам. Напрыканцы дня прыбылі да мэты пілігрымкі і, пакінуўшы рэчы ў Доме пілігрыма, накіраваліся ў святыню, каб пакланіцца Маці Божай Ліхенскай у цудоўным абразе.

Крыжовы шлях на мясцовай Кальварыі, экскурсія, наведванне папскіх апартаментаў, у якіх пражываў св. Ян Павел II падчас наведвання Ліхеня, урачыстасць з закрыццём цудадзейнага абраза, ружанцовая малітва, арганны канцэрт, працэсія святла, ранішнія св. Імшы – усё гэта ўзмацніла духоўна беларускіх пілігрымаў.

У перадапошні дзень група пабывала з экскурсіяй у Познані. На зваротным шляху наведалі касцёл святога Антонія Падуанскага ў польскім мястэчку Сакулка (Падляшша), дзе ў кастрычніку 2008 года здарыўся Эўхарыстычны цуд. Асвечаная (Перамененая) Гостыя ператварылася ў мышачную тканку чалавечага сэрца – жывога і ў вялікім цярпенні, у стане агоніі.



## Дажынкі ў Лынтупах

**Вернікі Лынтупскай парафіі першага верасня святкавалі дажынкі.**

**Нэля Лось**, *парафія святога апостала Андрэя (м. Лынтупы)*

У касцёле каля алтара і на ўваходзе былі аформлены выставы пладоў новага ўраджаю. Кошыкі з садавінай і гароднінай, снапы збожжа, перавітыя ручнікамі, упрыгожаныя гронкамі рабіны, букеты рознакаляровых восеньскіх кветак, слоікі з крамянымі агурочкамі, памідорамі, перцамі і іншымі прысмакамі, прыгатаванымі дбайнымі рукамі лынтупскіх гаспадынь, цешылі вока яркай палітрай фарбаў. Усе з цікавасцю разглядалі і фатаграфавалі кампазіцыі.

Імшу з падзякай Пану Богу за плён новага ўраджаю цэлебравалі ксёндз-пробашч Аляксандр Баран і госць – вікарый парафіі Езуса Міласэрнага ў Віцебску – ксёндз Алег Хмылко, наш зямляк.

Ксёндз Аляксандр выказаў урачыстую падзяку Пану Богу за сёлетняе жніво. "Усе карыстаюцца працай земляробаў, – казаў святар, – і мы павінны быць удзячнымі працаўнікам палёў за добрасумленнасць і адказнасць у штодзённых клопатах пра ўраджай, цаніць і шанаваць хлеб, якога не хапае многім на Зямлі. Злучаная са святой Імшой і Эўхарыстыяй падзяка з'яўляецца найлепшым дарункам Пану Богу за ўраджай і людскую працу".

Потым адбылася працэсія з дарамі да алтара. Малыя дзеткі, як кветкі жыцця – прыгожыя, чыстыя, нявінныя – ішлі першымі з букетамі і кошычкамі пладоў, аздобленых паводле дзіцячай фантазіі. Выпечаны са збожжа новага ўраджаю бохан хлеба заняў пачэснае месца на алтары. Святар прыняў яго са словамі: "Навучы нас, Пане, заўсёды ўмець дзяліцца хлебам з тымі, хто яго не мае".

З удзячнасцю Богу за штодзённыя дары і з надзеяй сваім жыццём прыносіць сторазовы плён да алтара паставілі кошык з садавінай і гароднінай як сімвал плоднасці зямлі і цяжкасці сялянскай працы.

Аднаўлены стараннем ксяндза і ўсёй парафіі крыж Збаўцы ўзвышаўся на алтары як знак нашага клопату пра Касцёл, умацоўваючы нашу веру, надзею і любоў.

Ахвярныя дары – хлеб і віно – ксёндз прыняў са словамі: "Учыні, Божа, каб заўсёды мы жылі як Твае дзеці, якіх Ты ўпадабаў". Праз момант яны сталіся Целам і Крывёю Хрыста. Затым адбылося асвячэнне вянкоў і пладоў, што прынеслі вернікі.

Напрыканцы ксёндз-пробашч падзякаваў усім за супольную малітву, пажадаў смачных абедаў, пахваліў Лынтупшчыну і яе жыхароў за руплівасць і працавітасць, за жаданне жыць заможна, за прыгожыя, дагледжаныя двары з мноствам кветак, за веру і ахвярнасць.

Амаль дзве гадзіны ў касцёле прамільгнулі як адна хвіліна... Цёплыя, зычлівыя словы святара зрабілі сваю справу, і парафіяне разыходзіліся з лагоднымі ўсмешкамі. На выхадзе шчодрыя гаспадыні частавалі ўсіх печывам.

Свята ўдалося! Было прыгожа і цікава, кранальна і запамінальна, з прагненнем веры і ахвярнасці Пану Богу.

# Ружанец стаў мне паратункам

**Маё навяртанне да Бога і паяднанне з Касцёлам адбылося ў сталым узросце. Але і да гэтага часу я была знаёмая з ружанцам у выглядзе ланцужка з пацеркамі.**

**Іна Карпушэнка**

Я бачыла яго ў руках сваіх бабулі і маці, ён здаваўся мне толькі прыгожай, эстэтычнай рэччу, але ужо тады з нейкай таямнічай каштоўнасцю і вартасцю. Гэта як “пароль”, па якім пазнаеш католіка. У мяне было некалькі ружанцаў, але часцей за ўсе я брала ў рукі і разглядала ружанец, які трапіў да мяне ад людзей, што былі ў пілігрымцы ў Фаціме. Ён выклікаў нейкі незвычайны піетэт. З цягам часу менавіта ў касцёле Маці Божай Фацімскай у Шуміліне адбылося маё навяртанне. Так упершыню ружанец, нават без належнай малітвы, проста знаходзячыся ў маіх руках, стаў мне паратункам і прывёў да касцёла.

Як неафіт я “хапалася” за розныя малітоўныя практыкі, але з часам асноўнай формай засталася Ружанцовая малітва. Для мяне гэта інтэграцыя асноўных малітваў, евангельскага сэнсу таямніц, заклікаў да Езуса і Марыі – сапраўды цудоўнае спалучэнне. Малітва на ружанцы, безумоўна, патрабуе часу, засяроджанасці, пэўных умоў, але які вынік! Я павінна спыніцца, свядома прысвяціць час, накіраваць увагу на тое, што сапраўды важнае... Скончыўшы малітву, незалежна ад стану душы напачатку, заўсёды адчуваю супакой, які так патрэбны кожнаму ў сучасным свеце.

На асабістым вопыце магу засведчыць вялікую моц і дзейсасць Ружанцовай малітвы. Неаднойчы практыкавала малітву Навэннай да Маці Божай, якая развязвае вузлы (янагрунтуецца на Ружанцовай малітве). Складаныя справы, у інтэнцыі якіх я малілася, вырашаліся найлепшым чынам. Але ёсць нюанс: трэба даверыцца Богу, перад Якім заступаецца Панна Марыя, і прыняць, як ласку, вынік. З гэтым у мяне напачатку былі праблемы, пакуль я не перастала чакаць ажыццяўлення ўласных “сцэнарыяў”. У рэшце рэшт Дух Святы даваў зразумець, як невымоўна плённа “развязваліся вузлы”. У гэтым бачу для сябе дзейсную дапамогу ў фармаванні пакоры, даверу Божай волі і ўпэўненасці ў Яго любові.

> **„На асабістым вопыце магу засведчыць вялікую моц і дзейснасць Ружанцовай малітвы”**

> **„менавіта ў касцёле Маці Божай Фацімскай у Шуміліне адбылося маё навяртанне”**

Адно з апошніх уражанняў дзейснай моцы Ружанцовай малітвы звязана з Пампейскай Навэннай, якую яшчэ называюць “непераможнай”. Гэта быў мой першы вопыт, але пасля яго я далучаюся да шматлікіх сведчанняў плёну гэтай малітвы. У маім жыцці паўстала безнадзейная, з чалавечага погляду, праблема, у вырашэнні якой я была бездапаможная. Асэнсаваўшы, што выйсце ёсць толькі ў Бога, я распачала Пампейскую Навэнну. Практыка гэтай малітвы патрабуе значна больш часу, прадуманага падыходу ў акрэсленні інтэнцыі, але гэта таго варта... Менавіта ў дзень пераходу ад часткі просьбаў да часткі падзякі (27 дзень з 54) Пампейская Навэнны справа вырашылася.

Ведаючы ўсе акалічнасці і складанасць сітуацыі, упэўнена, што адбыўся цуд: ашаламляльны, надзвычайны, неверагодны!.. Слёзы я ўжо не магла стрымаць, калі даведалася, што Бог у вырашэнні гэтай справы дзейнічаў праз жанчыну, імя якой было Марыя!

Ружанцовая малітва для мяне – гэта сувязь з Богам, ланцужок, які я не магу адпусціць, бо загіну. Змагаючыся з грахом, наступствамі гэтага свету, ніяк не абысціся без дапамогі Панны Марыі. Найсвяцейшая Маці Божая чуе, дапамагае, заступаецца за нас. Як жа я магу здрадзіць Ёй?!





# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку “Газетная закрыстыя”.**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету “Каталіцкі Веснік”. Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*“Каталіцкі Веснік”*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар’янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце “Газетная закрыстыя”. Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце “Каталіцкі Веснік” Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*“Каталіцкага Весніка”*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Раскопкі на востраве Манастыр завершаны... Але працяг будзе

**З 1 па 15 жніўня на востраве Манастыр, што на возеры Неспіш, праводзіліся археалагічныя раскопкі.**

■ **Святлана Жылевіч**, *тэкст;* **Ірына Гайдамовіч**, *фота* *waladarka.by*





Як вядома, на працягу некалькіх стагоддзяў тут існаваў базыліянскі манастыр з іконай Маці Божай, якая цяпер захоўваецца ў касцёле ў Браславе, а 10 гадоў таму была афіцыйна прызнаная Ватыканам цудадзейнай і каранаваная папскімі каронамі. 10 жніўня на востраве пабывала фотакарэспандэнт сайта браслаўскага санктуарыя Ірына Гайдамовіч.

"Безумоўна, мне было цікава паглядзець, як адбываюцца раскопкі, – падзялілася ўражаннямі Ірына. – Гэта была магчымасць дакрануцца да гісторыі ў прамым сэнсе слова: у дзень майго прабывання там знайшлі дзве манеты, а дайверы дасталі палі ад былога моста. Частку палі я нават трымала ў руках. На раскопках працавалі вельмі прыемныя людзі, з усёй аддачай. Нягледзячы на стомленасць, з раніцы да вечара яны крапатліва адкопвалі падмурак, прасейвалі кожны грам зямлі, каб адшукаць штосьці цікавае і важнае. Натуральна, хацелася б уявіць, як там было калісьці насамрэч, якім быў манастыр, як там жылі манахі".

За два тыдні раскопак быў знойдзены падмурак кляштара (археолаг Мікалай Плавінскі мяркуе, што ён датуецца канцом XVIII – пачаткам XIX стагоддзяў), а незадоўга да канца раскопак – людскія парэшткі, які закансервавалі да наступнага года. Знойдзены таксама кераміка, шкло і манеты (адна з іх 1547 г.). Акваторыю вакол вострава даследавалі дайверы, якія знайшлі 24 палі моста, што вёў з берага на востраў. Дайверы вызначылі, што даўжыня моста складала каля 100 метраў, а шырыня – 2 метры. Узор палі накіравалі ў Акадэмію навук для вызначэння ўзросту драўніны і самога моста. Мяркуецца, што яму каля 500 гадоў.

Раскопкі былі арганізаваныя Цэнтрам рэгіянальнага развіцця "Браслаў" у межах праекту "Выспа Манастыр (Кляштар)". У планах кіраўнікоў гэтай некамерцыйнай арганізацыі – аднаўленне кляштара з усімі пабудовамі і мостам.

"Сваёй мэтай мы ставілі пачатак працаў па выяўленні падмурка манастыра і ўсіх пабудоваў, – адзначыла Алена Шэўчык, кіраўнік праектаў Цэнтра рэгіянальнага развіцця "Браслаў". – Мы ўжо адкапалі частку падмурка, а геарадары паказалі, што там ёсць пустоты, а значыць, ёсць падвалы. Для нас гэта азначае, што неабходна працягнуць раскопкі ў наступным годзе. Калі ж мы будзем ведаць дакладна памеры пабудоў, то зможам распрацоўваць праект макета і аднаўлення манастыра. У архівах ёсць апісанне манастыра, але памеры яго пакуль невядомыя. Знаходкі разнастайных манет і ўпрыгожванняў пацвярджаюць той факт, што ў манастыр прабывалі пілігрымы з розных краін. А людскія парэшткі, мяркуем, гэта захаванні браслаўскіх архімандрытаў (паколькі невядомыя іншыя месцы іх пахаванняў). Аднак дакладней пра ўсё даведаемся падчас працягу археалагічных працаў".

Ракопкі крыху прыадкрылі таямніцы жыцця на востраве, аднак і паказалі неабходнасць далейшых даследаванняў. У найбліжэйшых планах кіраўніка праекту – стварэнне інфармацыйных стэндаў, навядзенне парадку на востраве, арганізацыя экскурсій. Праект некамерцыйны і займаюцца ім энтузіясты, якія не маюць фінансавання, а таму ўсіх неабыякавых да гісторыі Браслаўшчыны і абраза Маці Божай Браслаўскай заахвочваем падтрымаць праект матэрыяльна. Зрабіць гэта можна на сайце molamola.by.



## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Наталля Гаўрыльчык** *(Падсвілле)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **вернікі з Пастаў**, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Фалевіч С.Л.** *(Камарова)*, **Зенона Альксніна** *(Браслаў)*, **Яўгенія Паўлава** *(Віцебск)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Даната Варанько** *(Друя)*, **Соф'я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Феліцыя Небышынец** *(Дубовы Лог)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Даната Рудак** *(Янкова)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **парафіяне з Браслава**, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Бенедзікта Баранава** *(Двор Пліна)*, **Соф'я Чырвінская** *(Язні)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Ванда Кірылава** *(Ёды)*, **Віткоўская В.М.** *(Шудаўцы)*, **Людміла Каросцік** *(Параф'янава)*, **Зоя Шпак** *(Пагошча)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Эмілія Стакло** *(Юльянова)*, **Ніна Шпак** *(Друйск)*, **Рэгіна Лазучэнка** *(Браслаў)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Валянціна Лучына** *(Слабодка)*, **Стэфанія Глод** *(Слабодка)*, **Елізавета Барткевіч** *(Слабодка)*, **Даната Далецкая** *(Слабодка)*, **Рэгіна Савіцкая** *(Гаўрылаўцы)*, **Ядвіга Барткевіч** *(Гаўрылаўцы)*, **Юзэфа Мількевіч** *(Веркаўшчына)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Лоўкіс Л.В.** *(Навасёлкі-2)*, **Лубінская Я.Ф.** *(Шэметава)*, **Пазняк Л.А.** *(Прусы)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Тэрэса Варанецкая** *(Мёры)*, **Соф'я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Сурвіла В.А.** *(Шэметава)*, **Кавалёнак С.** *(Прусы)*, **Яўгенія Паўлава** *(Віцебск)*, **Казімір Сіндрэвіч** *(Падсвілле)*, **Парфяновіч Я.М.** *(Пялікі)*, **Лук'янская А.В.** *(Пялікі)*, **Тэрэса Варановіч** *(Докшыцы)*, **Бервячонак А.Б.** *(Прусы)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

# На мёрскім касцёле ўсталявалі шыльду ў гонар жаўнераў Арміі Андэрса

**Адкрыццё памятнай дошкі адбылося ў нядзелю, 1 верасня. Менавіта ў гэты дзень восемдзесят гадоў таму пачалася Другая сусветная вайна, якая забрала жыцці больш як 55 мільёнаў чалавек.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Шмат хто з нашых землякоў змагаўся з нацыстамі не толькі на ўсходнім фронце, але і на Захадзе. Доўгі час пра іх або наогул не ўспаміналі, або лічылі здраднікамі. Шмат хто з іх пацярпеў ад савецкай улады, калі вярнуўся на родную зямлю. Але настаў час аднавіць гістарычную справядлівасць – годна ўшанаваць памяць змагароў.

Менавіта гэтым і кіраваліся нашчадкі ветэранаў Арміі Андэрса з Мёршчыны Аляксандр Рынкевіч, Павел Лутохін і Арцём Сухойда, чые дзяды і прадзеды ваявалі на заходнім фронце і ўдзельнічалі ў бітве пад Монтэ-Касіна. Ідэя ўшанаваць памяць сваіх продкаў узнікла ў іх колькі гадоў таму. Каб яе ажыццявіць, спатрэбілася шмат працы: трэба было сабраць матэрыялы, напісаць навуковае абгрунтаванне, атрымаць усе дазволы, знайсці грошы...

– Ідэя з'явілася пяць гадоў таму. Мы пазнаёміліся з Пашам і Арцёмам. І вось з Божай дапамогай мы гэта зрабілі, у нас атрымалася! Шмат хто нам дапамагаў: хто грашыма, хто проста падтрымкай, хто транспартам, – кажа Аляксандр Рынкевіч, галоўны з ініцыятараў устаноўкі памятнай шыльды.

Арцём Сухойда дадае: "На першы погляд, здаецца, што гэта проста. Але намі было затрачана шмат сілаў і энергіі. Трэба было сабраць шмат інфармацыі, дамовіцца з людзьмі, патрэбная была і фінансавая падтрымка. Саша для гэтага практычна ўсе Мёры арганізаваў".

На адкрыцці памятнай шыльды прысутнічалі вернікі, святары, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, польскай дыпламатычнай місіі на чале з Марцінам Вайцяхоўскім, раённую ўладу прадстаўляў Валерый Драба. Праводзіла мерапрыемства супрацоўніца браслаўскага музея Ганна Базарэвіч.

Напачатку выступілі ініцыятары ўсталявання памятнай шыльды. Арцём Сухойда распавёў, што ў гэтым годзе яму з бацькам пашчасціла пабываць у Італіі на мерапрыемствах, прысвечаных 75-годдзю бітвы пад Монтэ-Касіна. Прадзед Арцёма Ян Сухойда ўдзельнічаў у гэтай бітве ў складзе 4-га танкавага палка "Скарпіён".

Арцём адзначыў, што яны ў Італіі размаўлялі з прадстаўнікамі розных краін, і было прыемна, што людзі з Вялікабрытаніі, Францыі, Злучаных Штатаў, Японіі, Новай Зеландыі ведаюць: у складзе Арміі Андэрса ваявалі і беларусы. На жаль, у нас на Радзіме пра гэтых герояў часта зусім не ведаюць. Таму ўсталяванне шыльды дапаможа аднавіць гістарычную справядлівасць, і пра подзвіг нашых людзей будуць ведаць і ў Беларусі.



Пробашч Мёрскай парафіі кс. Андрэй Кулік асвячае шальду ў памяць герояў

Пасля гэтага Аляксандр, Павел і Арцём пад апладысментаў прысутных знялі тканіну, якая закрывала памятную шыльду. На ёй напісаныя словы: "Мемарыяльная дошка ў гонар воінаў-землякоў, якія ваявалі супраць нямецкіх захопнікаў у складзе Арміі генерала У. Андэрса і іншых баявых злучэннях на Заходнім фронце (1939–1945 гг.)", а таксама на беларускай і польскай мовах прыведзеныя такія словы:

***Італьянскім Сталінградам***
***Тое месца завуць,***
***Дзе цяпер крыжы белыя***
***Уздоўж гары.***
***Памяць Монтэ-Касіна макі***
***там берагуць,***
***Дзе ляжаць нашы***
***Прадзеды-змагары.***

Пасля адкрыцця шыльды выступіў пробашч Мёрскай парафіі кс. Андрэй Кулік, які прывёў словы Хрыста:

– Няма большай любові, калі хтосьці аддае жыццё за сяброў сваіх. Гэтыя людзі аддалі свае жыцці за свае сем'і, за сваю краіну, за свой народ, і мы павінны пра іх памятаць... Няхай адкрыццё гэтай дошкі натхніць нас на вывучэнне сваёй гісторыі, сваіх каранёў, сваёй мовы, навучыць любіць яе. З гэтага пачынаецца наша ўнутраная свабода, якая дапамагае нам вольна жыць у знешнім свеце, – такімі словамі скончыў святар свой выступ.

Пасля адбылося асвячэнне памятнай шыльды ў гонар землякоў, што ваявалі на заходнім фронце. Далей слова атрымалі супрацоўнік польскай амбасады Марцін Вайцяхоўскі і прадстаўнік раённай улады Валерый Драба. Яны адзначылі, што важна памятаць гістарычныя ўрокі, каб у будучым не паўтараліся падобныя трагедыі. І сённяшняя падзея – гэта яшчэ адзін крок у такім кірунку.

Выступіў таксама настаўнік гісторыі і краязнаўца з Мёраў Вітольд Ермалёнак, які адным з першых у рэгіёне пачаў збіраць звесткі пра землякоў, што ваявалі на Захадзе. Ён адзначыў гістарычную значнасць сённяшняй падзеі, у якой, зрэшты, ёсць і яго немалы ўклад.

Напрыканцы мерапрыемства да шыльды былі пакладзеныя кветкі і запаленыя знічы, а ўсе прысутныя накіраваліся ў храм на святую Імшу.



Выступае прадстаўнік польскай дыпламатыі Марцін Вайцяхоўскі




Адкрыццё шыльды

Каталіцкі ВЕСНІК
№9 (102)
верасень 2019 г.

# Каляндар



**Кастрычнік – месяц ружанцовай малітвы. У гэты перыяд Касцёл асабліва заахвочвае нас маліцца гэтай малітвай.**

Ружанец (на лаціне rosarium – ружавы вянок) пэўная форма малітвы, паслядоўнасць якой адлічваецца нібы па пялёстках ружы.

Айцом ружанца лічыцца святы Дамінік. Паданне гаворыць, што так маліцца навучыла яго Сама Найсвяцейшая Дзева. Яна і даручыла яму распаўсюджваць малітву па ўсім свеце. Але гэта не быў ружанец у яго сучаснай форме. Ружанец у тым выглядзе, на якім мы молімся зараз, склаўся дзякуючы дамініканцу Алану дэ ля Рош (1428-1475). Ён усталяваў па колькасці псалмоў у Псалтыры 150 "Вітай, Марыя", падзеленыя на 15 дзясяткаў, кожнаму з якіх папярэднічала малітва "Ойча наш". Каб распаўсюдзіць гэтую малітву, ён арганізаваў першыя колы св. Ружанца. У XVI стагоддзі ружанец быў канчаткова падзелены на тры часткі, кожная з якіх уключала пяць таямніц (у 2002 годзе была дададзеная яшчэ адна, чацвёртая частка).

**1 кастрычніка – успамін св. Тэрэзы ад Дзіцятка Езус, панны і доктара Касцёла.**



Тэрэза Мартэн нарадзілася 2 студзеня 1873 г. у горадзе Алансон у Нармандыі (на паўночным захадзе Францыі). Яе тры сястры ўступілі ў Кармэль. Іх маці рана памерла, і старэйшая сястра Паўліна заняла яе месца і выхоўвала маленькую дзяўчынку. Але пасля і Паўліна сама прыйшла ў кляштар. Пакутуючы ад расстання, св. Тэрэза захварэла. У чатырнаццацігадовым узросце яна сама папрасіла прыняць яе ў кармеліцкі кляштар. Але біскуп і Папа Леў XII адхілілі яе просьбу. Праз год яна ўсё ж такі атрымала дазвол на ўступленне.

Толькі дзевяць гадоў св. Тэрэза была кармеліткаю. Сёстры з супольнасці часта яе не разумелі і ставіліся да яе скептычна. Духоўныя пакуты Тэрэзы абцяжарваліся пакутамі фізічнымі, якія яна цярпела праз цяжкую форму сухотаў, на якія захварэла ў кляштары. Гэтыя цярпенні Тэрэза жадала ахвяраваць за грэшнікаў. Святасць Тэрэза разумее як бязмежны давер да Бога і стаўленне дзіцяці ў адносінах да Яго міласэрнай любові. Свой "малы шлях" да святасці Тэрэза ад Дзіцятка Езус прайшла праз поўнае прысвячэнне сябе Богу і ахвяры за збаўленне свету. Яна адышла ў вечнасць 30 верасня 1897 г. ва ўзросце 24 гадоў. У 1997 г. падчас Сусветнага дня моладзі ў Парыжы Слуга Божы Ян Павел II абвясціў святую Тэрэзу, якую часам называюць "Малой", доктарам Касцёла.

## На кастрычнік прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**2 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Марат Казлоўскі** *(Мосар)*;

**4 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Віктар Місевіч** *(Віцебск)*, імяніны адзначаюць **кс. Аляксандр Грыцкевіч** *(Верхнядзвінск)*, **кс. прэлат Францішак Кісель** *(Полацк)*;

**7 кастрычніка** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Алег Хмылко** *(Віцебск)*;

**8 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Іван Кароткін** *(Глыбокае)*, **а. Кляменцій Верт SJ** *(Віцебск)*;

**11 кастрычніка** – імяніны адзначае **кс. Аляксандр Півавар** *(Бешанковічы)*;

**13 кастрычніка** – імяніны адзначаюць **кс. канонік Эдвард Ахрамовіч** *(Опса)*, **кс. Эдвард Нарадоўскі** *(Задарожжа)*;

**18 кастрычніка** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. канонік Андрэй Аніскевіч**, дырэктар Карытас *(Віцебск)*;

**22 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Лешак Вітвіцкі SDS** *(Слабодка)*; імяніны адзначае **кс. Алег Хмылко** *(Віцебск)*;

**24 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначае **а. Андрэй Букштан OFMCap** *(Докшыцы)*;

**25 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Вашчук SDS** *(Віцебск)*;

**28 кастрычніка** – імяніны адзначае **а. Тадэвуш Кавальскі OFMcap** *(Докшыцы, Бягомль)*.

*Падрыхтаваў* **Зміцер Лупач**

**2 кастрычніка – успамін св. Анёлаў-ахоўнікаў.**



**4 кастрычніка – успамін св. Францішка.**



Францішак Асізскі – заснавальнік ордэна меншых братоў – нарадзіўся ў 1181 г. у горадзе Асізі ў Умбрыі (Цэнтральная Італія), у сям'і купца і гандляра тканінамі П'етра Бернардоне. Правеўшы юнацтва бесклапотна і весела, ва ўзросце 24 гадоў ён перажыў навяртанне, і з таго часу цалкам прысвяціў сябе Богу. Ён пачаў жыць у крайняй беднасці, даглядаў пракажоных, уласнымі рукамі адбудоўваў разбураныя касцёлы, прапаведаваў. У хуткім часе ў яго з'явіліся паплечнікі, а ўжо праз некалькі гадоў – у 1209 г. – Папа Інакенцій III зацвердзіў Правіла новага братэрства. Так з'явіўся Францішканскі ордэн. За два гады да смерці Францішак атрымаў ад Пана дзіўны дар – стыгматы. Знясілены пастаянным постам і суровым ладам жыцця, 3 кастрычніка 1226 г. ён памёр. Менш чым праз два гады Папа Грыгорый IX залічыў Францішка да ліку святых. Яго "Гімн Сонцу" стаў першым вершам на італьянскай мове, даўшы пачатак развіццю паэзіі на нацыянальных мовах.

**7 кастрычніка – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Ружанцовай.**

**10 кастрычніка – гадавіна пасвячэння катэдральнага касцёла.**

**13 кастрычніка – дваццацігадовы юбілей утварэння Віцебскай дыяцэзіі.**



Ioannes Paulus episcopus servus servorum Dei

Віцебская Рыма-каталіцкая дыяцэзія была ўтворана 13 кастрычніка 1999 года Святым Айцом Янам Паўлам II на моцы Апостальскай Канстытуцыі "Ad aptius conselendum". У той жа дзень Святы Айцец Ян Павел II прызначыў першым біскупам Віцебскім ксяндза доктара Уладзіслава Бліна, пробашча архікатэдральнага касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Магілёве і магілёўскага дэкана. Генеральным вікарыем дыяцэзіі быў прызначаны ксёндз прэлат Францішак Кісель, пробашч касцёла Святога Андрэя Баболі ў Полацку.

**15 кастрычніка – успамін св. Тэрэзы ад Езуса, панны і доктара Касцёла.**



Тэрэза Авільская нарадзілася 28 сакавіка 1515 года ў Авіле (Іспанія). З дзяцінства будучая святая адрозніваласця любоўю да кніг і глыбокай пабожнасцю. Ва ўзросце 20-ці гадоў таемна збегла з дому і ўступіла ў кармеліцкі кляштар у Авіле, узяўшы пры гэтым імя ад Езуса. Пасля нядоўгага знаходжання ў манастыры Тэрэза цяжка захварэла, яе паралізавала, але яна перамагла хваробу. У манастыры Тэрэза набыла багаты містычны досвед: ёй неаднаразова з'яўляўся Езус, а херувім працяў яе сэрца вогненнай дзідай. Перажыўшы глыбокі містычны вопыт, святая імкнулася да дасканаласці жыцця, і таму ў 1562 годзе ў Авіле заснавала першы рэфармаваны кармеліцкі кляштар, у якім шмат увагі прысвячала малітве, самотнасці, суровай аскезе. У кляштары жыло ўсяго 12 сясцёр – па ліку апосталаў.

Тэрэза Авільская прайшла пешшу па ўсёй Іспаніі 5600 кіламетраў, і напрыканцы яе жыцця ў Іспаніі было 16 такіх рэфармаваных супольнасцей, якія сталі ядром новай галіны кармеліцкага манаства – "басаногіх кармелітак". Самым значным творам святой Тэрэзы стаў "Унутраны замак". У гэтым містычным трактаце яна адлюстроўвае душу як замак са шматлікімі пакоямі, у цэнтры якога знаходзіцца Хрыстус.

Святая Тэрэза памерла ў 1582. У 1622 г. Папа Рыгор XV далучыў яе да ліку святых. У 1970 г. Папа Павел VI абвясціў яе Доктарам Касцёла.

Святая Тэрэза Авільская лічыцца галоўнай нябеснай заступніцай Іспаніі.

**17 кастрычніка – успамін св. Ігнацыя з Антыёхіі, біскупа і мучаніка.**



Ігнацый – адзін з першых сведкаў Хрыста. Яго называлі Тэофорос (з грэцк. – "той, хто нясе Бога", або "несены Богам"), звязваючы гэта з тым, што св. Ігнацый быў тым дзіцём, якога Хрыстус, узяўшы на рукі, паставіў перад вучнямі са словамі: "Хто прыме адно з такіх дзяцей у імя Маё, той Мяне прымае" (гл. Мк 9, 36–37). Св. Ігнацый быў вучнем св. Яна Багаслова і на працягу сарака гадоў з'яўляўся біскупам Антыёхіі, у той час значнага горада ў Малой Азіі на тэрыторыі сучаснай Турцыі. Вядома, што ў кіраванне імператара Траяна Ігнацый быў адпраўлены пад вартай у Рым у 107 г., дзе прыняў пакутніцкую смерць. Яго разадралі львы на арэне цырка. Існуюць судовыя акты св. Ігнацыя, якія апісваюць працэс суда і прысуд. У іх указваецца дата яго мучаніцкай смерці – 20 снежня. У гэты дзень Ігнацыя памінае Усходняя Царква. Аднак Заходні Касцёл пасля літургічнай рэформы 1969 г. адзначае дзень яго памяці 17 кастрычніка, паколькі менавіта гэтая дата пазначана ў больш раннім сірыйскім варыянце Усходняга мартыралёгу.



# на кастрычнік

⇨ **18 кастрычніка – свята св. Лукі, евангеліста.**



Евангеліст Лука быў антыяхійцам па нараджэнні і першапачаткова язычнікам па веравызнанні. Прыняўшы веру Хрыста ў сталіцы Сірыі, будучы сведка-пісьменнік сустрэўся з найбольш вядомым прапаведнікам Езуса – апосталам Паўлам. Ад яго, а таксама з іншых крыніцаў, ці то запісаных, ці то вусных, ён атрымаў інфармацыю, якую змясціў на старонках Евангелля і Апостальскіх Дзеяў. Лука ўдзельнічаў у некаторых місійных падарожжах Апостала Народаў, даследаваў жыццё Хрыста ў Палесціне, вызначаўся мастацкім талентам, быў медыкам па прафесіі. Айцы Касцёла з першых стагоддзяў, а менавіта Ірэнэй з Ліёна (130–202 гг), Клімент з Александрыі (150–215 гг), Эўсэбій з Кесарыі (каля 325 г.), а таксама Канон Мураторыя (каля 170 г.) упэўнена называюць імя Лукі як аўтара трэцяга Евангелля і Апостальскіх Дзеяў. Лічыцца, што Лука загінуў мучаніцкай смерцю за веру.

**22 кастрычніка – успамін святога Папы Яна Паўла ІІ.**



22 кастрычніка 1978 года ўрачыста распачаўся пантыфікат Вялікага Папы Яна Паўла ІІ, які доўжыўся 27 гадоў і быў адным з самых працаглых пантыфікатаў у гісторыі Каталіцкага Касцёла. За час свайго служэння Папа здзейсніў 146 апостальскіх візітаў на тэрыторыі Італіі, 104 замежныя візіты, абвясціў 1338 чалавек благаслаўлёнымі і 482 чалавекі святымі. Сэрца Пантыфіка, шырока адкрытае для ўсіх, а перадусім для Бога, перастала біцца 2 красавіка 2005 г. Ён быў абвешчаны святым 27 красавіка 2014 г.

**28 кастрычніка – свята св. Сымона і Юды, апосталаў.**



Апостал Сымон перад тым, як далучыўся да супольнасці дванаццаці, належаў да палітычна-рэлігійнай габрэйскай групоўкі, чальцы якой называлі сябе зелотамі (арамейск. кананітамі) – руплівымі, змагарамі. Пасля ўваскрасення Хрыста ён абвяшчаў Евангелле ў асноўным у Егіпце і Арменіі. Апостал Юда Тадэвуш, які падчас развітання з Хрыстом спытаў у Яго: "Пане, чаму Ты хочаш аб'явіць Сябе нам, а не свету?", напачатку абвяшчаў Евангелле ў Эдэсе, дзе ахрысціў мясцовага цара і ўсіх яго падданых. У знак падзякі за гэта цар Эдэсы падарыў апосталу выяву Хрыста, якую Юда Тадэвуш заўсёды насіў на грудзях. Паводле паданняў, абодва гэтыя апосталы вялі місіянерскую дзейнасць у Сірыі, Персіі і Месапатаміі і разам былі забітыя дубінамі каля 71 г. (па іншых звестках, Сымон быў распілаваны).

Цела св. Юды з цягам часу перавезлі ў Рым. І па сённяшні дзень яно знаходзіцца ў базыліцы св. Пятра, дзе шматлікія вернікі аказваюць яму вялікую пашану. Папа Павел III сваім рашэннем ад 22 верасня 1548 г. удзяліў поўны адпуст тым, хто будзе маліцца каля святых рэліквій Апостала ў дзень яго свята, г. зн. 28 кастрычніка.

Святы апостал Сымон з'яўляецца апекуном дрывасекаў і лясных работнікаў, а заступніцтва св. Юды Тадэвуша просяць у безвыходных сітуацыях. Вядома, што той, хто ў самых складаных жыццёвых сітуацыях з глыбокаю вераю звернецца да св. Юды, абавязкова атрымае дапамогу: калі не тую ласку, пра якую просіць, то духоўную моц, каб несці свой крыж, цалкам аддаючыся Божай волі.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

## Фотафакт.

### Біскуп Алег Буткевіч на адпустовай урачыстасці ў Тарноўцы



**8 верасня ў санктуарыі Маці Божай Даверу – Заступніцы сельскагаспадарчай працы – у Тарноўцы (Польшча) адбыліся адпустовыя ўрачыстасці з нагоды Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі, злучаныя з падзякай за сёлетні ўраджай.**

**Кусташам гэтага санктурыя са жніўня 2019 года з'яўляецца ксёндз-канонік Павел Кнурэк, які яшчэ не так даўно быў пробашчам катэдральнага касцёла Езуса Міласэрнага ў Віцебску. На яго запрашэнне ўрачыстую святую Імшу цэлебраваў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч.** *Паводле diecezja.rzeszow.pl*

# Езус аздараўляе

**Сярод цудаў, якія ўчыніў Езус Хрыстус, аздараўленні людзей ад розных хваробаў займаюць асаблівае месца. Праверце сябе, ці добра вы ведаеце некаторыя евангельскія гісторыі цудоўных аздараўленняў?**

**1** Якое дзеянне ўчыніў Езус, аздараўляючы сляпога чалавека? (Ян 9, 1-38)



**А.** Зрабіў над ім знак крыжа і, узяўшы сляпога за руку, адвёў да лепшага лекара ў Ерусаліме.
**Б.** Плюнуў на зямлю, змяшаў сліну з дарожным пылам і памазаў ёю вочы сляпому.
**В.** Узяў міласціну, якую ў гэты дзень сабраў сляпы, і раздаў людзям.

**2** У начальніка сінагогі Яіра памерла адзіная дачка (Мк 5, 21-43). Пры яе ўваскрашэнні Езус сказаў: "Таліта-кум". Што азначаюць гэтыя словы?



**А.** "Дзяўчына, прачніся!"
**Б.** "Моцаю Божаю ўваскрашаю цябе!"
**В.** "Дзяўчына, табе кажу, устань!"

**3** Жанчына, якая шмат гадоў цярпела на крывацёк, дакрануўшыся да краю вопраткі Езуса, аздаравілася (Мк 5, 25-34). Колькі гадоў гэтая жанчына пакутавала ад сваёй хваробы?



**А.** 12
**Б.** 16
**В.** 18

**4** Чыю цешчу аздаравіў Езус? (Мц 8, 14-15)



**А.** Пятра
**Б.** Паўла
**В.** Яна

**5** У Кафарнауме Езуса кранулі словы сотніка, які прасіў пра аздараўленне (Мц 8, 5-13): "Пане, я не варты, каб Ты ўвайшоў пад дах мой, але скажы толькі слова, і будзе аздароўлены…" Працягні цытату са святога Пісання: каго аздаравіў Езус для гэтага чалавека?



**А.** Брат сотніка
**Б.** Бацька сотніка
**В.** Слуга сотніка

**6** У суботу ў адной з сінагогаў Езус аздараўляе жанчыну, якая доўгі час была згорбленая і не магла выпрастацца. Езус, калі ўбачыў яе, паклікаў і сказаў ёй: "Жанчына, ты вызвалена ад немачы сваёй" (Лк 13, 10-17). Колькі гадоў згорбленая жанчына не магла выпрастацца?



**А.** 12 гадоў
**Б.** 18 гадоў
**В.** 20 гадоў

**7** Як звалі чалавека, якога Езус уваскрасіў на чацвёрты дзень пасля яго смерці? (Ян 11, 1-45)



**А.** Елісей
**Б.** Лазар
**В.** Саул

**8** Як звалі слугу першасвятара, якому Пётр адсек вуха, а Езус яго цудоўна аздаравіў? (Ян 18, 10)



**А.** Мальхас
**Б.** Каяфа
**В.** Анна

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

**Правільныя адказы на старонцы 12**

# Бубен, які быў у бітве пад Венай, а потым доўгі час выкарыстоўваўся ў касцёле для ўрачыстасцей



Зараз гэты бубен захоўваецца ў школьным музеі ў Мёрах, які стварыў знакаміты гісторык і краязнаўца Вітольд Ермалёнак.

**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Калі вам даводзілася бываць у Мёрах, і вы не наведалі музей спадара Вітольда, можаце смела лічыць, што вы ў гэтым горадзе і не былі. За сваё жыццё Вітольд Антонавіч стварыў некалькі музеяў, у якіх захоўваецца некалькі тысяч экспанатаў. І амаль пра кожны з іх краязнаўца распавядзе вам цікавую гісторыю.

Не так даўно ў музей патрапіў бубен. На першы погляд, што тут такога, раней іх шмат выкарыстоўвалася на вяселлях і розных святах. Але гэты бубен асаблівы. І спадар Вітольд распавёў пра яго цікавостку.

– Людзі часам прыносяць мне рэчы. І вось адзін мужчына сказаў, што ў яго ёсць бубен, на якім бацька граў на вяселлях. Я пра гэта запомніў, - пачынае расповед Вітольд Ермалёнак.

У хуткім часе краязнаўца знайшоў копіі дакументаў мёрскага касцёла XVIII стагоддзя. Там быў пералік усяго, што было ў храме. Нават вокны былі адзначаны, дзе былі пабітыя, а дзе не. І стан лавак быў пазначаны: колькі паламаных, колькі не. Адным словам, усё было пералічанае. І быў пазначаны стары турэцкі бубен.

– Я тады адразу паехаў да гэтага чалавека, – працягвае Вітольд Ермалёнак. – Як толькі мне паказалі бубен, я ўбачыў, што ён не вясельны, а баявы. Тады я адразу ж набыў гэту рэч.

Цікавая сама гісторыя, як бубен апынуўся ў гэтага чалавека. У Мёрах да пабудовы сучаснага храма быў драўляны касцёл XVII стагоддзя. Шляхціч Лапацінскі, які быў родам з гэтай мясцовасці, удзельнічаў у бітве пад Венай. Яго ўнукі пабудавалі маёнтак Лявонпаль, і яны ж падаравалі мёрскаму касцёлу гэты бубен. Яго сталі выкарыстоўваць для касцельных урачыстасцей.

– А як ён апынуўся ў бацькі гэтага чалавека, таксама цікавая гісторыя, - працягвае Вітольд Антонавіч. – Быў ён музыкантам. Акрамя гэтага ўваходзіў у касцельны камітэт. А наш касцёл, які стаіць і зараз, быў зачынены на пяць гадоў, з 1949 па 1954 год.

І вось парафія атрымала святара, а яго трэба было прыпісаць. Бо калі святар без прапіскі, то савецкая ўлада магла касцёл зачыніць. Людзі сталі пісаць звароты да ўладаў. Гэта зараз чыноўнікі павінны даць адказ у вызначаны тэрмін. Тады такога не было. Пісалі вернікі і ў райвыканкам, і ў аблвыканкам, а ніякага адказу не было.

Тады людзі сабралі грошы і накіравалі хадака ў Маскву. Пяцьсот чалавек не пабаялася ў той час падпісацца пад зваротам. Але КДБ таксама не спала ў шапку. У Маскве яго сустрэлі, запрасілі ў рэстаран, напаілі. Калі ён прачнуўся, то грошы былі цэлыя, а падпісных лістоў не было.

Вярнуўся ён у Мёры. І што сказаць землякам?! Сорамна ж! Але неяк у вузкім коле ўсё ж прагаварыўся.

І тады людзі зноў сталі збіраць подпісы... Бацька таго чалавека, што прадаў бубен спадару Вітольду, быў у касцельным камітэце. А яшчэ ён быў удзельнікам вайны. Надзеўшы ўсе свае ўзнагароды паехаў у Маскву. Яго, дарэчы, таксама хацелі пачаставаць па дарозе. Але, навучаны горкім вопытам папярэдніка, ён не паддаўся на спакусу і прыехаў у Маскву, дзе трапіў на прыём да ўпаўнаважанага па справах рэлігій.

Той таксама быў удзельнікам вайны. Калі ён пабачыў узнагароды на грудзях наведвальніка, то яны сталі разам успамінаць вайну. А ўжо напрыканцы спытаў: "Што вас да мяне прывяло?" Ну, ён і сказаў пра тое, што ў Мёрах няма магчымасці прыпісаць ксяндза, пасля чаго паказаў яму падпісныя лісты. Тады ўпаўнаважаны проста пры ім зняў трубку і патэлефанаваў у Мінск. Маўляў, што такое ў вас робіцца, у Мёрах ксяндза не прапісваюць? Людзі вось аж у Маскву едуць!

Потым сказаў свайму наведвальніку: "Вяртайся, будзе прыпісаны!" Не паспеў ён вярнуцца, як міліцыянты самі прыехалі да ксяндза, завезлі яго ў аддзел і прыпісалі ў хаце гэтага чалавека.

– І тады ксёндз падараваў яму гэты бубен, бо ў касцёле ён ужо не выкарыстоўваўся. Яго крыху перарабілі, бо першапачаткова стаяў гарызантальна. Але скура засталася тая самая. І гучыць жа! *(Спадар Вітольд ударае па бубену).*

Вось такая цікавая гісторыя адной рэчы.

***

Бітва пад Венай адбылася 12 верасня 1683 каля горада Вены, паміж войскам польска-аўстрыйска-нямецкім (Святая Ліга), пад камандаваннем Яна III Сабескага, і войскам Асманскай імперыі, пад камандаваннем візіра Кары Мустафы. Скончылася паражэннем Турцыі, якая не аправілася пасля ўдару і ўжо не ўяўляла пагрозу хрысціянскай Еўропе.



Вітольд Ермалёнак распавядае пра гісторыю бубена



Мастак Ян Матэйка. "Ян Сабескі пасылае вестку аб перамозе Папу Рымскаму пасля бітвы пад Венай

**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца.
Святая Імша адпраўляецца кожны аўторак а 16.00.
Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

## Пакой для малітвы

ў Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнствы, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова, кожны чацвер з 17.00.
Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне:
+ 375 29 78 51 298




## Парады для тых, хто хоча маліцца Пампейскай навэннай

1 Дзень, калі распачынаем Пампейскую навэнну, адзначаем у календары.

2 Пампейская навэнна доўжыцца 54 дні. Кожны дзень молімся тры ранейшыя часткі святога Ружанца (радасную, балесную і хвалебную). Калі хтосьці жадае, можна маліцца чатыры часткі, разам з таямніцамі святла.

3 Перад тым, як распачаць кожную частку, узгадваем інтэнцыю (коратка і ясна, і толькі адну інтэнцыю), а пасля кажам: *"Гэты Ружанец малюся на Тваю хвалу, Каралева Ружанца святога"*.

4 На працягу 27 дзён молімся так званую частку просьбаў Пампейскай навэнны, і штодня на заканчэнне кожнай часткі святога Ружанца молімся наступным чынам: *"Памятай, о міласэрная Ружанцовая Панна з Пампеяў, што ніколі не здаралася, каб быў пакінуты Табою хтосьці з тых, хто Цябе ўшаноўвае, з Ружанцам Тваім кліча Цябе на дапамогу.*

*О, не пагарджай просьбаю маёю, о Маці спрадвечнага Слова, але праз Твой сьвяты Ружанец і праз упадабанне, якое аказваеш Тваёй святыні ў Пампеях, ласкава выслухай мяне. Амэн".*

5 На працягу наступных 27 дзён молімся так званую частку падзякаў Пампейскай навэнны, і штодня на заканчэнне кожнай з трох частак святога Ружанца молімся наступным чынам: *"Што ж я магу даць Табе, о Каралева, поўная любові? Усё маё жыццё аддаю Табе. Наколькі буду мець моцы, буду пашыраць хвалу Тваю, о Дзева святога Ружанца з Пампеяў, бо калі я клікаў (клікала) Цябе на дапамогу, агарнула мяне ласка Божая. Паўсюль я буду апавядаць пра міласэрнасць, якую Ты праявіла да мяне, як толькі здолею, буду пашыраць набажэнства святога Ружанца, усім буду абвяшчаць, якой ласкавай Ты была да мяне, каб і нягодныя, як і я, грэшнікі з даверам імкнуліся да Цябе. О калі б цэлы свет ведаў пра Тваю дабрыню і літасць да тых, хто церпіць, усе стварэнні прыходзілі б да Цябе. Амэн".*

6 Незалежна ад малітваў на заканчэнне, запісаных у 4 і 5 пунктах гэтых "практычных парадаў", кожная з трох частак святога Ружанца (напрыклад, хвалебная) непасрэдна заканчваецца трохразовым заклікам да Маці Божай: *"Каралева Ружанца святога, маліся за нас!"*

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

* * *

У лацінскай мове nona значыць дзевяць. Ад гэтага слова паходзіць слова "навэнна".Пампейская навэнна – гэта асаблівы прыклад навэнны. Яна злучае ў адно шэсць звычайных навэннаў. Такім чынам, мы маем справу з "мега" навэннай, якая доўжыцца на працягу 54 дзён.



## Новы крыж з'явіўся на вежы касцёла ў Глыбокім

23 верасня 2019 года адбылася важная падзея для глыбоцкай святыні. Пробашч парафіі кс. Мікалай Ціхановіч асвяціў новы крыж для левай вежы касцёла, а пасля працоўная брыгада ўсталявала яго.

Падчас рамонтных прац на вышыні, убачыўшы стан старога крыжа, было вырашана яго зняць і замяніць. Больш месяца цяжкую ручную працу над стварэннем дакладнай копіі папярэдняга крыжа рабіў каваль з Глыбоччыны Сяргей Ткачоў.

Стары крыж прастаяў на святыні больш за сто гадоў.

***Марына Сінкевіч**, тэкст;*
***Леанід Юрык**, фота*





## Сардэчна віншуем!



*29 верасня адзначае свой дзень Анёла* ***ксёндз Міхаіл Татарэнка****.*

*Лужкаўская парафія віншуе свайго паважанага пробашча з імянінамі. Жадаем божых ласкаў, усіх дароў Святога Духа, праз усё жыццё апекі Найсвяцейшай Панны Марыі!*

*Дзесяць гадоў Вы робіце нас больш шчырымі, больш добрымі і справядлівымі. Вашы казанні прыносяць свой плён, і ў нашых сэрцах з'яўляецца любоў, любоў да Бога, якая з цягам часу набірае сілы. І наша вера дзякуючы Вам мацнее!*

***Таму жадаем мы ў дзень Анёла,***
***Каб дух мацнеў, здароўе не здавала.***
***А моц і веліч нашага касцёла***
***Усё болей з кожным годам узрастала!***

Дзякуем Вам і нізка кланяемся за тое, што мы разам!

***З павагай і ўдзячнасцю,***
***адданыя вернікі Лужкаўскай парафіі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*19 верасня чарговую гадавіну святарскага пасвячэння адзначыў* ***ксёндз Тадэвуш Кавальскі****. Сардэчна віншуем яго з гэтай нагоды!*

*Шаноўны ойча Тадэвуш! Нізка кланяемся і дзякуем Вам за ласку і дабрыню, за клопат пра дзяцей і моладзь, пра састарэлых людзей!*

*Няхай Пан Бог узнагародзіць Вас за цяжкую працу ў нашай парафіі, за абвяшчэнне Божага слова, за мудрыя казанні, за Вашае добрае сэрца, за цярпенне! Мы дзякуем Пану Богу за ласку спаткання з Вамі. Ад усяго сэрца жадаем Вам моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою, неабходных сіл для рэалізацыі Вашых планаў, шмат адкрытых і шчырых сэрцаў на Вашым шляху!*

*Шчыра молімся, каб Божая міласэрнасць спадарожнічала Вам і Вашым родным праз усё далейшае жыццё!*

***З павагай і малітвай, вернікі касцёла***
***Імя Хрыста Валадара ў Бягомлі***

## Хвала Хрысту!

*13 кастрычніка Дзень Анёла азначае наш* ***душпастыр Эдвард Ахрамовіч****.*

*Шаноўны ксёндз Эдвард! Прыміце нашы шчырыя віншаванні з гэтай нагоды! Жадаем Вам моцнага здароўя, Божай дапамогі ў служэнні Касцёлу, апекі Маці Божай і Анёла Ахоўніка!*

***З павагай і малітвай, вернікі парафіі***
***св. Яна Хрысціцеля (аг. Опса)***

## Хвала Хрысту!

*8 кастрычніка свой трыццацігадовы юбілей адзначае вікарый Глыбоцкай парафіі* ***ксёндз Іван Кароткін.***

*Штодня мы глядзім на Вашу працу і адданасць для нашай парафіі. Шчыра віншуем і жадаем, каб кожны дзень супраўваджала блізкасць Таго, хто паклікаў Вас і каму Вы даверылі сваё жыццё. Хай багацце ласкаў пастаянна памнажаецца і прыносіць плён у чалавечых сэрцах нашых парафіян узмацненнем веры і больш глыбокай любоўю да Бога. А Марыя - Маці Хрыста і Маці Святароў Вас абараняе і падтрымлівае Сваёй мацярынскай любоўю. Няхай Ваша здароўе будзе моцным, аптымізм і радасць будуць заўсёды побач, а сэрца хай палае бясконцай любоўю да Бога і людзей. Мудрасці Вам і цярплівасці ў нялёгкай працы на Божай ніве.*

***Глыбоцкія парафіяне***

## Хвала Хрысту!



*Шаноўны* ***ксёндз Славамір Самковіч****! Ад шчырага сэрца віншуем Вас с Днём нараджэння (29 верасня)! Няхай Добры Бог адорвае Вас сваім бласлаўленнем і патрэбнымі ласкамі ў штодзённай працы! Хай Езус Хрыстус дзеліцца Сваім цярпеннем, а Дух Святы хай заўсёды крочыць са сваімі дарамі побач!*

*Няхай у сэрцы заўжды жывуць вера, надзея і любоў! Жадаем моцнага здароўя, поспехаў, духоўных і фізічных сілаў для служэння Богу і людзям! Дзякуем Вам за абвяшчэнне Слова Божага, за цудоўныя казанні, за тое, што ведзяце нас дарогай праўды, павучаеце любіць Бога і бліжняга!*

***Вернікі парафіі Божай Міласэрнасці,***
***аг. Пагошча (Браслаўскі раён)***

## Паважаны ксёндз Славамір!

*Вас віншуюць удзельнікі руху "Апостальства дапамогі душам чысцовым". Жадаем апекі Маці Божай, усіх дароў Духа Святога, дапамогі анёлаў, добрых людзей Вам побач і ўзаемаразумення!*

***Вернікі з касцёлаў***
***г. Мёры, в. Ідолта, в. Павяцце***

## Хвала Хрысту!

*Віншуем з нагоды імянінаў нашага паважанага* ***пробашча Станіслава Мжыглуда****.*

*Няхай Езус Хрыстус будзе для Вас, шаноўны ксёндз Станіслаў, крыніцай сілы і радасці ў святарскай паслузе, Святы Дух няхай апраменьвае святлом, а Найсвяцейшая Панна Марыя хай прытуляе да Свайго сэрца!*

*Дзякуем за шчырыя малітвы, за мудрыя казанні. Жадаем доўгіх святарскіх гадоў! Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе ясным і бласлаўлёным!*

***Вернікі санктуарыя***
***Маці Божай Валадаркі Азёраў***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Паважаны* ***ксёндз Альфрэд Пяхота****! Сардэчна віншуем Вас з Днём нараджэння!*

*Жадаем Вам моцнага здароўя, душэўнага супакою, людской добразычлівасці. Няхай Вашая моцная вера, светлая надзея і любоў напаўняюць сэрцы кожнага блізкага, кожнага знаёмага, кожнага верніка радасцю і ўцехай! Няхай Пан Бог заўсёды будзе з Вамі, хай кожны дзень жыцця нясе з сабой святло Божай ласкі!*

*Дзякуем Вам за вернасць і адданасць Касцёлу і парафіі, за шчырую малітву, за Вашу чуласць і сардэчнасць!*

***З віншаваннем і ўдзячнасцю,***
***вернікі касцёла Нараджэння***
***Найсвяцейшай Панны Марыі ў Відзах***

## Паважаны ксёндз Вячаслаў!



*Ад усіх нашых сэрцаў шчыра віншуем Вас з днём імянінаў! Няхай Вялікі Бог дасць Вам моцнае здароўе, доўгае жыццё, плён на Божай ніве! А мы заўсёды рады Вас бачыць.*

***Вернікі капліцы***
***в. Дзедзіна***
***і в. Забалоцце***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**
1 – Б; 2 – В; 3 – А; 4 – А; 5 – В; 6 – Б; 7 – Б; 8 – А

## Хвала Хрысту!



*9 верасня адзначыў імяніны наш паважаны* ***ксёндз-пробашч Сяргей Сурыновіч****.*

*Шаноўны ксёндз Сяргей! Прыміце нашы шчырыя віншаванні з гэтай нагоды! Жадаем Вам моцнага здароўя, сіл, цярпення, душэўнага супакою, Божай падтрымкі ва ўсіх справах, шчырых і добразычлівых вернікаў на Вашым жыццёвым шляху!*

*Дзякуем за ахвярную працу на Божай ніве, за чулае сэрца, за ўвагу да кожнага з нас. Няхай Вас заўсёды атачаюць промні Божай міласэрнасці, моц Духа Святога і апека Маці Божай! Няхай заўсёды добры Езус валадарыць у Вашым сэрцы і адорвае Сваімі ласкамі, а святы заступнік хай знаходзіцца побач!*

*Нізкі паклон Вам, шаноўны ксёндз Сяргей, за сумесныя малітвы, за дабрыню і разуменне!*

***Вернікі касцёла Святой Тройцы ў Друі***
***(Браслаўскі р-н)***

## Хвала Хрысту!

*Шаноўны* ***ксёндз Сяргей Сурыновіч****! Віншуем Вас з нагоды імянінаў (9 верасня)!*

*Дзякуем Вам за тое, што ведзяце нас па дарозе жыцця з Панам Богам, за адданую працу, за малітвы і казанні, за добрае сэрца!*

*Хай добры Бог і надалей адорвае Вас сваім святлом і патрэбнымі ласкамі, Дух Святы хай натхняе на плённую і доўгую святарскую службу, а Панна Марыя ахіляе любоўю, ласкай і пяшчотай! Жадаем Вам і Вашым родным моцнага здароўя! Мы памятаем Вас у сваіх малітвах!*

***Вернікі парафіі***
***Святога Юзафа, аг. Друйск***

## Хвала Хрысту!

*9 верасня адсвяткаваў імяніны наш* ***ксёндз-пробашч Сяргей Сурыновіч****. Ад усяго сэрца віншуем паважанага ксяндза Сяргея і дзякуем яму за адданую святарскую працу ў нашай парафіі, за дабрыню і ўвагу да людскіх патрэбаў!*

*Жадаем Вам, ксёндз Сяргей, моцнага здароўя, нястомнай радасці, душэўнага супакою і толькі добразычлівых людзей побач! Няхай добры Бог, Які паклікаў Вас да святарства, заўсёды натхняе і ўмацоўвае Вас, Маці Божая хай атуляе, ахоўвае і падтрымлівае, а Святы Дух хай дапамагае выконваць душпастырскую паслугу і шчодра адорвае дарамі! Няхай зерне, засеянае Вамі на Божай ніве, прыносіць добры плён!*

***З павагай і ўдзячнасцю,***
***парафіяне касцёла Святой Тройцы ў Друі***
***(Браслаўскі р-н)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*30 верасня адзначае Дзень нараджэння пробашч Нацыянальнага санктуарыя Маці Божай у Будславе* ***ксёндз Дзмітрый Дубовік****.*

*Шаноўны ксёндз Дзмітрый! Прыміце нашы шчырыя пажаданні добрага здароўя, сіл і цярпення, душэўнага спакою і добрага настрою!*

*Шчыра дзякуем за вялікую працу ў нашай святыні, за клопат пра кожнага, за прыемную атмасферу і лагодную ўсмешку!*

*Нізкі паклон Вам за сумесныя малітвы, за дабрыню, за разуменне і цярплівасць! Божай падтрымкі Вам ва ўсіх справах, прыгожага і багатага плёну ва ўсіх задумках, шчырых вернікаў на Вашым шляху!*

*Няхай Пан Бог шчодра адорвае Вас усімі неабходнымі ласкамі, памнажае мудрасць і падтрымлівае ў цярпенні!*

***З павагай і ўдзячнасцю,***
***вернікі Будслаўскай парафіі Унебаўзяцця НПМ***
***з вёсак Яцкавічы, Ілава, Петрачкі, Забегі***

## Прыміце падзяку

**Пахвалёны Езус Хрыстус!**
**27 ліпеня 2019 года адбылося асвячэнне крыжа ў зніклай вёсачцы Масты на Пастаўшчыне.**

Крыж асвяціў і адправіў святую Імшу **ксёндз Марат Казлоўскі**. Зрабіў крыж і паставіў яго на месцы сваёй хаты былы **жыхар гэтай вёскі Вікенцій Пачкоўскі**. Вёска была маленькая: усяго сем хатак пасярод лесу. Зямлі ў людзей было мала, таму і жылі бедна. Але была жывая вера: маліліся, адпраўлялі маёвыя і чэрвеньскія набажэнствы. У вайну вёсачка не была спалена, хоць уначы прыходзілі партызаны, а удзень – немцы.

На гэтую ўрачыстасць сабралася сям'я спадара Вікенція, суседзі з рыбгаса "Навінкі", былая жыхарка Мастоў Вэрця Юхновіч (Ткачонак), якой 86 гадоў. Сабралася каля дваццаці чалавек. З гэтай вёскі мая мама, дзядзькі, цётка, якія ўжо адышлі ў вечнасць, але яны прывілі любоў да тутэйшых мясцін, да людзей, якія тут жылі. Я памятаю амаль усіх жыхароў вёскі, з якіх мала ўжо жывых.

Я прыехала на ўрачыстасць з Браслава з сынам Андрэем, з сёстрамі Марыяй і Янінай, што жывуць у Шаркаўшчыне. Цяпер да вёскі можна даехаць на машыне па лясной дарозе. На месцы былой хаты спадара Вікенція высечаны кусты, лёгка знайсці крыж.

Мы дзякуем ксяндзу Марату і Вікенцію Вінцэнтавічу за падораную ўрачыстасць праз дваццаць гадоў пасля знікнення вёскі. Мы шчыра маліліся за былых вяскоўцаў, многія прыступілі да споведзі. Прысутнічала моладзь, усе былі шчаслівыя і ўсхваляваныя. Маліліся за дзяцей і ўнукаў, якія жывуць далёка, але, магчыма, будуць прыязджаць на сваю малую радзіму, калі даведаюцца пра вёску Масты, якую памятаем і любім мы, яшчэ жывыя сведкі.

*Леанарда*

## Хрысціянскі гумар

***

Малітва беднага габрэя:
– Божа! Дай мне, калі ласка, мільён, і я абяцаю раздаць палову бедным, якія жывуць у нястачы!
Праходзіць тыдзень без зменаў. Новая малітва беднага габрэя:
– Божа! Калі Ты мне не даўяраеш, дай мне толькі палову мільёна, а астатняе раздай Сам!

***

– Навошта ты сварышся з жонкай перад споведдзю?
– У мяне дрэнная памяць, а варта трохі зачапіць жонку, дык яна мне ўсе грахі ўзгадвае!

***

Ранішняя малітва:
– Божа! Сёння да гэтага моманту я паводзіў сябе добра: нікога не абгаворваў, не выходзіў з сябе, не быў ні прагным, ні бурклівым, ні агідным, ні эгаістычным, ні распешчаным. Я ўдзячны Табе за гэта!
І праз некалькі хвілін:
– Божа, мне хутка ўставаць, таму мне, магчыма, спатрэбіцца значна больш Тваёй дапамогі!

***

У натоўпе каля касцёла раздаўся гучны крык:
– Сябры, я зноў хаджу! Я зноў хаджу!!!
– Скажы, брат, як адбыўся гэта цуд?
– У мяне скралі машыну!!!

***

Трое мужчын вядуць спрэчку пра тое, чыя прафесія найбольш старажытная.
Будаўнік:
– Так, наша прафесія самая старажытная. Мы яшчэ егіпецкія піраміды будавалі.
Садоўнік:
– Куды ўжо вам? Нашы спецыялісты яшчэ Эдэмскі сад садзілі.
Электрык:
– Што вы ўсё спрачаецеся? Яшчэ да таго, як Бог сказаў "Няхай будзе святло!", у нас ужо ўся праводка была пракладзена.

***

Пасярод пекла ёсць ледзяное возера. Вада там настолькі халодная, што кавалак расплаленага металу, кінутага ў возера, імгненна ператвараецца ў лёд.
Убачыць гэтае возера немагчыма. У кожнага, хто падыдзе да яго занадта блізка, замярзаюць вочы да таго, як ён здолее разглядзець гэтае возера.
Кажуць, што ў возеры сядзяць работнікі камунальнай гаспадаркі, тыя, хто іншым адключаў летам гарачую ваду.

***

Ідзе Чырвоны Капялюшык па лесе і захапляецца прыродай. І як усё выдатна, як прыгожа! Раптам на шляху сустракаецца шэры воўк. Чырвоны Капялюшык пачынае абурацца: "Госпадзе, чаму Ты гэта зрабіў? Госпадзе, дай Ты гэтаму ваўку хрысціянскія намеры". У гэтую хвіліну адбыўся цуд – воўк стаў маліцца: "Госпадзе, благаславі гэтую ежу. Амэн".

***

Адам вяртаецца позна ўвечары да Евы. Ева сустракае яго незадаволеным і недаверлівым позіркам.
– Каханая, павер, акрамя цябе ў мяне нікога няма!
Сярод ночы Адам адчуў рукі Евы на сваіх грудзях.
– Што ты робіш, Ева? – усклікнуў Адам.
– Рэбры твае лічу...

***

Маленькі хлопчык глядзіць, як ксёндз рамантуе плот каля касцёла.
– Ты што, ніколі не бачыў, як ксяндзы цвікі забіваюць?
– Не, мне проста цікава, што кажуць ксяндзы, калі яны трапляюць сабе малатком па пальцы.

***

Неяк раз свіння і курыца ўбачылі стомленых падарожнікаў. Курыца кажа свінні:
– Глядзі, як яны стомленыя дарогай. Можа, накормім іх яечніцай з вяндлінай?
Свіння адказала:
– Ну так, толькі для цябе гэта будзе ахвяраванне, а для мяне – ахвярапрынашэнне!

***

Маленькая дзяўчынка нешта засяроджана малюе на аркушы.
Тата падыходзіць і пытаецца:
– Дачушка, што ты малюеш?
– Бога!
–Так? Але ж ніхто не ведае, як Ён выглядае.
– Зараз даведаюцца!

***

На катэхезе:
Выкладчык:
– Як вы думаеце, чаму апостал Пётр пайшоў за Езусам?
Антось:
– Таму што Езус аздаравіў цешчу Пятра, і яму нічога іншага не заставалася, як сысці з хаты.

***

– Змей пашкадаваў, што спакусіў Адама і Еву.
– Чаму?
– Калі Ева з'ела яблык, то яна ўбачыла ў Змеі не толькі жывёлу, але і рэмень, і кашалёк і сумачку.

***

# Думкі святога Францішка Асізскага

**4 кастрычніка Каталіцкі Касцёл успамінае св. Францішка Асізскага, які жыў на мяжы XII – XIII стагоддзяў, а яго простыя і адначасова мудрыя парады застаюцца актуальнымі і сёння. Мы падрыхтавалі для чытачоў "Каталіцкага Весніка" некалькі духоўных парадаў ад аднаго з "найбольш прывабных святых", які лічыцца папулярным не толькі сярод католікаў, а нават сярод атэістаў.**



### Пра чысціню сэрца

Бласлаўлёныя чыстыя сэрцам, бо яны Бога ўбачаць (Мц 5,8). Сапраўды чыстыя сэрцам тыя, хто адмаўляе зямное, шукае нябеснага і няспынна моліцца і бачыць Госпада Бога жывога і праўдзівага чыстым сэрцам і душой.

### Пра пакорнага слугу Божага

Шчаслівы той слуга (Мц. 24, 46), які не больш ганарыцца ад дабра, каторае Госпад робіць праз яго, чым калі кажа і робіць праз іншага. Грашыць чалавек, які аддае перавагу атрыманню большага ад бліжняга свайго, чым аддаванню ад сябе Госпаду Богу.

### Няхай ніхто не спакушаецца злом, здзейсненым іншым

У слугі Божага нішто не павінна выклікаць агіды, акрамя граху. І калі хто-небудзь зробіць грэх, а слуга Божы бянтэжыцца і гневаецца, але не праз любоў да грэшнага, дык сам памнажае сабе грэх. Той слуга Божы, які не гневаецца і не бянтэжыцца праз чужы грэх, жыве без уласнага. І шчаслівы той, хто не пакідае сабе нічога, аддаючы цэзарава цэзару, а Божае Богу.

### Пра спагаду да бліжняга

Бласлаўлёны той чалавек, які ў немачы падтрымлівае свайго бліжняга ў тым, у чым сам бы хацеў, каб той яго падтрымаў, апыніся ён у падобным няшчасці. Шчаслівы слуга, які аддае ўсё дабро Госпаду Богу, бо калі хто штонебудзь ўтрымаў сабе, схаваў у сябе срэбра Госпада Бога свайго (Мц. 25, 18), тое што ён думаў мець, адымецца ў яго (Лк. 8, 18).

### Пра любоў

Кажа Госпад: "Любіце ворагаў вашых і маліцеся за тых, хто пераследуе вас" (Мц 5, 44). Той сапраўды любіць свайго ворага, хто не пра ўчыненую ім крыўду ўспамінае і смуткуе, але ў любові да Бога смуткуе за грахі яго душы. І вырастае з яго пакутаў любоў.

### Каб ніхто не прысвойваў сабе ўлады

"Я не для таго прыйшоў, каб Мне служылі, але каб паслужыць" ( Мц. 20, 28), кажа Госпад. Тыя, хто пастаўлены над іншымі, няхай столькі ж ганарацца гэтай уладай, колькі калі б былі прызначаныя на служэнне абмывання ног братоў. І калі больш бянтэжацца пра страту ўлады, чым пра страту абавязку мыць іншым ногі, тым больш набіваюць сабе грашовых скрыначак на пагібель душы (Ян. 12, 6).

### Пра цнатлівасць, якая пазбягае заганы

Дзе любоў і мудрасць, там няма ні страху, ні невуцтва.
Дзе цярпенне і пакора, там няма ні гневу, ні збянтэжанасці.
Дзе беднасць з радасцю, там ні скваппасці, ні скупасці.
Дзе спакой і разважанне, там ні смуты, ні трывогі.
Дзе страх Госпада ў таго, хто ахоўвае свой дом (Лк. 11,21), там вораг не зможа знайсці месца для нападу.
Дзе міласэрнасць і любоў, там няма месца ні фанабэрыі, ні чэрствасці.

*Падрыхтавала Вікторыя Колзун*

# Девять святых пар, которых можно просить о заступничестве

**Пример этих святых мужей и жён вдохновит тех, кто желает укрепить свой брак**



**Даже успешный брак обычно сопряжен с некоторыми трудностями в пути. В конце концов, практически невозможно избежать трудностей и сомнений, когда супруги живут и развиваются вместе.**

Когда наступает такой трудный момент, мы можем обратиться к семейному психологу или духовному консультанту, но независимо от состояния наших отношений мы всегда можем надеяться на помощь святых пар, память о которых сохранила для нас христианская история.

Если вы посмотрите на опыт этих святых, то увидите, что в браке и они сталкивались со многими трудностями – от утраты детей и бедности до сомнений в себе. Эти святые часто находили силы и опору не только в Боге, но и в своих супругах. Поэтому, если вы ищете помощи и укрепления для вашего брака, пусть опыт этих святых пар вдохновит вас.

## Святые Луи и Мари-Зели Мартен



Эта святая пара воплотила в себе идеал взаимной поддержки. Луи бросил производство часов, чтобы помочь жене в её более успешном кружевном бизнесе, проявив как смирение, так и деловую практичность. Они всю жизнь оставались верны друг другу, потеряв четверых детей, и Луи заботился о своей жене, когда она умирала от рака. Они передали преданность Богу и семье пяти выжившим дочерям, одна из которых – святая Тереза из Лизье.

## Святые Иоаким и Анна



Оставаясь бездетными после долгих лет вместе, эти святые супруги, как говорит нам традиция Церкви, посвятили себя посту и молитве. Наконец их вера была вознаграждена рождением святейшей из дочерей, Пречистой Девы Марии. Хотя нам мало что известно об этой святой паре – бабушке и дедушке Иисуса, – их пример учит нас никогда не терять надежду.

## Святые Исидор и Мария де ла Кабеса



Эти скромные фермеры были усердны в работе и молитве. Потеряв своего единственного ребёнка в младенчестве, они продолжали служить Богу тяжелым физическим трудом и делились тем немногим, что имели, с бедными. Своим примером они учат нас обретать силы и радость в простых повседневных делах.

## Святые Захария и Елисавета



Подобно Иоакиму и Анне, эта стареющая супружеская пара оставалась бездетной. Однако, несмотря на разочарование, они всегда были верны Богу, и их вера была вознаграждена. Елисавета была уже совсем стара, когда Архангел Гавриил посетил её мужа и сказал, что его жена родит сына. Так появился на свет святой Иоанн Креститель.

## Святые Иштван и Гизела Баварская



Брак Гизелы с королём Венгрии Иштваном был дипломатическим, однако набожная Гизела использовала своё положение для распространения христианства по всей Венгрии. Также и Иштван следил за соблюдением христианских традиций в своём королевстве. Благодаря их вере и совместным усилиям "брак по расчету" оказался прекрасным христианским союзом.

## Святые Луиджи Бельтраме Куаттрокки и Мария Корсини

Эта итальянская пара была беатифицирована в 2001 году Папой Иоанном Павлом II, который сказал, что они "жили обычной



жизнью необычным образом. Внутри радостей и забот обычной семейной жизни они имели необычайно богатую духовную жизнь". Эта состоятельная пара неуклонно служила бедным и нуждающимся.

## Святые Мария и Иосиф



Пречистая Матерь Иисуса сказала "да" неизвестному, а Иосиф сопровождал её в пути. Эта святейшая из семейных пар – пример брака, в котором Бог пребывает на первом месте, а их преданность друг другу позволила исполнить Его волю.

## Святой Григорий Назианзин Старший и святая Нонна



Эти святые IV века были родителями троих детей, и все они также стали святыми, в частности, св. Григорий Богослов. После вступления в брак Нонне удалось убедить супруга перейти в христианство, и обращение его было столь великим, что в будущем он даже стал епископом. Пара жила в соответствии с христианскими ценностями, которые и передала своим детям. Они учат нас прислушиваться друг к другу в поисках правильного пути.

## Святые Генрих II и Кунигунда

Традиция гласит, что брак этих святых XI века был чисто духовным,



и Кунигунда предпочитала посвятить себя Богу в монастыре. Тем не менее, она использовала своё влияние, побуждая мужа служить бедным, отдавать земли Церкви и создавать новые епархии. Хотя они были бездетны, взаимное уважение и вера позволили им творить великие дела во имя Господа.

*Перевод: Анастасия Орлова, рускатолик.рф со ссылкой на www.aleteia.org*



## Рэкалекцыі для сужэнцаў, якія моляцца пра дар патомства, адбудуцца ў Росі

**З 11 па 13 кастрычніка ў рэкалекцыйным доме ў Росі пройдуць духоўныя практыкаванні для сем'яў, якія моляцца пра нараджэнне дзіцяці.**

Падобныя рэкалекцыі ўжо праводзіліся і пасля прынеслі свой плён: некаторыя сужэнствы далі сведчанне нараджэння новага жыцця.

Прычыны адсутнасці дзяцей у сям'і могуць быць медыцынскія. Але, бывае, сужэнцы кажуць, што падчас знаходжання ў розных клініках у іх не выявілі ніякай медыцынскай прычыны няпладнасці. Таму корань немагчымасці зачацця варта шукаць больш глыбока, звяртаючыся з просьбамі да Бога.

**Для ўдзелу ў рэкалекцыях неабходна абавязковая рэгістрацыя па тэлефоне: (8 029) 886-31-28.**

Па пытаннях запісу просьба тэлефанаваць з панядзелка па пятніцу ў гадзінах: 11.00 – 12.00, 20.00 – 21.00.

*кс. Чэслаў Паўлюкевіч, grodnensis.by*

# ПАЗНАВАЙКА

Пасля цудоўнага выратавання ізраільскага народу з егіпецкай няволі сястра Майсея спявала і таньчыла, падыгрываючы сабе на бубне.

**1. заданне**

Заданне: Прачытай кн. Выхаду 15.
Калі правільна разгадаеш рэбус, даведаешся імя сястры Майсея.




**2. заданне**

Злучы ўсе кропкі на малюнку, і паглядзі, як сястра Майсея і іншыя ізраільскія жанчыны таньчылі на хвалу Госпада Бога.




**3. заданне**

Падчас вандровак ізраільскага народу па пустыні Бог пасылаў ім манну нябесную, якую яны елі 40 гадоў. Прачытай кн. Выхаду 16 .
Знайдзі 5 адрозненняў на малюнках.



**4. заданне**

Бог гаварыў з Майсеем у густым воблаку.
Калі размалюеш па колерах прадметы, убачыш, як гэта адбывалася. Прачытай кн. Выхаду 19.





**5. заданне**

Паглядзі, якое пасланне перадаў Майсей ізраільскаму народу ад Госпада.
Калі выканаеш заданне – правер сябе, адчыніўшы кн. Выхаду 19, 5.

Ключ:
4 16 20 32 36 15 14 36 30 3 21 10 5 2 5 36
24 20 3 11 16 2 2 16 36 7 19 20 16 24 3 36
25 16 1 7 19 36 32 36 8 16 6 16 15 16 2 29
36 10 16 17 16 15 5 33 36 25 19 1 36 35 36
21 14 4 36 30 3 21 10 5 2 5 36 25 16 32 25
36 24 4 16 18 30 16 25 36 10 36 3 24 32 11
36 6 16 18 19 21 16 9 34

Адказ:




*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Колзун***



## Шчыра віншуем!

*Ад усяго сэрца віншуем **ксяндза Віктара Місевіча,** галоўнага рэдактара газеты "Каталіцкі Веснік" і канцлера Віцебскай дыяцэзіі з Днём нараджэння!!*

*Шаноўны ксёндз Віктар! Няхай у святарскім служэнні суправаджае Вас святасць, стараннасць і самаадданасць, заўсёды адчувайце моц Духа Святога, будзьце моцнымі сілай любові і веры, той веры, якую Хрыстус нам даў. Жадаем Вам дабрабыту, поспехаў у рэалізацыі планаў і добрага здароўя! А штодзённая праца над сабой няхай дадае крылы і дазволіць убачыць прыгажосць і глыбіню жыцця.*

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***

# У Магілёве адбудзецца Ружанцовы кангрэс

***"Маліцеся, калі маеце час, увесь Ружанец штодзённа"***

Дарагія браты і сёстры! Ужо набліжаецца ружанцовы месяц – кастрычнік. З гэтай нагоды мы запрашаем перш за ўсё ўдзельнікаў ружанцовых колаў (асабліва з Віцебскай дыяцэзіі) на Ружанцовы кангрэс, які адбудзецца 5 кастрычніка ў Магілёве ў катэдральным касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Гэтак жа, як і на папярэдніх двух, мэтаю цяперашняга кангрэса, што арганізоўваецца айцамі-дамініканамі, будзе паглыбленне духоўнага і інтэлектуальнага развіцця асобаў, каторыя моляцца на ружанцы. Сёлета сустрэча пройдзе пад дэвізам: "Маліцеся, калі маеце час, увесь Ружанец штодзённа – і ў гадзіну сваёй смерці вы будзеце блаславіляць той дзень і тую хвіліну, калі мне паверылі" [Святы Людовік Грыньён дэ Манфор; Трактат, 254].

### Праграма мерапрыемства:

**9:30 – 10:15** – Рэгістрацыя ўдзельнікаў.
**10:20** – Адкрыццё кангрэса.
**10:30 – 11:10** – Даклад айца Браніслава Дашкевіча "Паўната малітвы" айца Яцэка Варанецкага ОР.
**11:15 – 11:55** – Даклад с. Юліі Бугай ОР "Каментарый св. Тамаша Аквінскага да Божых запаведзяў".
*** Пытанні да дакладчыкаў, дыскусія, размова.
**12:15 – 13:00** – Ружанец перад Найсвяцейшым Сакрамантам.
**13:00 – 13:50** – Абед.
**14:00 – 14:40** – Даклад айца Марыуша Возьняка ОР „Трактат аб сапраўдным ушанаванні Найсвяцейшай Панны Марыі", Св. Людовіка Грыньён дэ Манфор.
**14:45 – 15:10** – Даклад айца Марка Урбаноўскага ОР, "Змест Евангелля ў малюнках бл. Фр. Анджэліка – дапамсога ў ружанцовай медытацыі".
*** Пытанні да дакладчыкаў, дыскусія, размова.
**15:30 – 15:55** – Перапынак.
**16:00 – 16:40** – Сведчанні аб пладах ружанцовай малітвы і папярэдніх кангрэсах.
**16:40** – Падрыхтоўка да літургіі.
**17:00** – Эўхарыстыя.

**Просім паведаміць пра свой удзел у кангрэсе да 24 верасня.** Рэгістрацыя абавязковая. Дастаткова патэлефанаваць або даслаць смс-паведамленнем інфармацыю пра сябе: імя, прозвішча, горад, назва парафіі, колькі чалавек. Таксама просім паінфармаваць, калі штосьці зменіцца і вы не прыедзеце на мерапрыемства. Для зарэгістраваных удзельнікаў кангрэса рыхтуецца шмат падарункаў. Мы чакаем вас і вашых блізкіх.

**Кантакты:** а. Раман, тэл. +375292919211; +48664570570 (schulzop@gmail.com) або а. Павел, тэл. +375299202007; 8(022)2412939.

**Адрас для карэспандэнцыі:** а. Раман Шульц ОР, вул. Якубоўскага, 39/18, 212026, Магілёў.




# IV Фестываль марыйных песень "Mater Dei" пройдзе ў Баранавічах




**У суботу, 12 кастрычніка, у санктуарыі Маці Божай Фацімскай у Баранавічах пройдзе IV Фестываль марыйных песень "Mater Dei". Да ўдзелу запрашаюцца хоры дарослых, дзіцячыя хоры, ансамблі, салісты і сем'і, якія спяваюць.**

### Умовы ўдзелу ў фестывалі:

- удзельнікі павінны падрыхтаваць два творы, у тым ліку адзін – абавязкова на беларускай мове.
- удзельнікі павінны падрыхтаваць творы "Serdeczna Matko" і "Ты за сабою нас вядзеш", якія будуць выконвацца ўсімі ўдзельнікамі на пачатак і на заканчэнне фестывалю.
- калектывы і салісты могуць выконваць творы акапэла або ў суправаджэнні аднаго музычнага інструмента.

Анкету на ўдзел у фестывалі можна дасылаць на адрас: г. Баранавічы, вул. Т. Шаўчэнкі,6, брат Карнэлій Консэк; або на электронную пошту: mater.dei@tlen.pl да 30 верасня.

Конкурс пройдзе ў санктуарыі Маці Божай Фацімскай (г. Баранавічы, пр-т Савецкі, 18). Пачатак у 11.00.

**Даведкі па тэлефоне: +375 29 227 38 84 – брат Карнэлій.**

# Рэкалекцыі цвярозасці пройдуць у Баранавічах

**11-13 кастрычніка ў Баранавічах пройдуць рэкалекцыі цвярозасці, якія арганізоўвае душпастырства цвярозасці Гродзенскай дыяцэзіі, паведамляе grodnensis.by.**

Арганізатары запрашаюць да ўдзелу ўсіх, каго хвалюе праблема алкагалізму і наркаманіі ў Беларусі.

Рэкалекцыі адбудуцца ў доме айцоў-вярбістаў (г. Баранавічы, вул. Шаўчэнкі, 6).

**Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: +375(33) 325-57-64, +375(29) 178-36-34 – Юрый Гапонік.**

# Ахвяруй на сайт Catholicnews.by, не выходзячы з дому



Дарагія сябры, ёсць магчымасць дапамагчы сайту Catholicnews.by фінансава.

Наш сайт абнаўляецца намаганнямі некалькіх чалавек. Рэдакцыя нясе транспартныя выдаткі, аплачвае паслугі хостынгу і інш. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай уласнага мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Дасалць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*375295105172*2# – калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі;

*363*375295105172*5# – калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў;

*(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання).*

Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*[код пацвярджэння]#

Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

Увага! Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

Больш падрабязную інфармацыю па правілах ахвяравання чытайце на сайце mts.by

Увага! Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС.

Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 5669

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2700 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 25.09.2019 г. у 12.59

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь